— Мой любы сябра, друг Сярожа,
З табой, брат, жыць і паміраць!

Ды што рабіць? — не плюнеш
ў твар.

— Я, браце, добры, я — не шпік,
Я сам, брат, шчыры пралетар,
З крыві і косці бальшавік...

Ён трэліць далей, што даецца,
(У п'яных ёсць сваё натхненне).
Ты сам, як «штых», табе здаецца,
Што ўжо ёсць пункт паразумення.

Так часам чарачка атруты
Патрэбна нам дзеля мацунку,
Бо цяжкім ёсць ланцуг пакуты,
Яшчэ цяжэй шукаць ратунку.

Я сам жывы, я маю матку...
Не стану кідаць дарма слоў,
Развязваць гэтую загадку
Не трэба мудрых мне аслоў.

Тут пахне едкасцю, гаворыш.
Папраўлю — едкаю сатырай.
Як знаеш сам, за сіне мора
І я калісь лятаў у вырай.

А ты баішся? Не кажы —
Нам шчырасць часам ў дружбе
шкодзіць,

Лепей там іншым памажы
На зоры словам цень наводзіць.

. . . . . . . . . . . . .

Ды хто сказаў, што мы прапалі?
Было б зарана заключаць.

Жыцця мы ў шапку не праспалі,
Хаця й не любімо крычаць.

Яшчэ мы, браце, пагаворым,
Яшчэ скрыжуем волі гарт,
Пакажам свету, хто быў хворы,
Хто варт быў слоў, а хто не варт.

Даруй за ўсё. Я сёння п'яны.
Не п'ю гарэлкі, гэты ж хмель
З таго, што, гнаўшысь праз
туманы,
З табой мы ўскочылі на мель.

Ты там і сеў. Бывай здароў!
А я пайду адкрытым ходам,
Пакуль ў грудзёх бруіцца кроў,
Не разлучуся я з народам.

# ПРАЗ ШПАРЫ КРАТ

На дне грамадскае пучыны
Ляжаў я каменем бязвольным
І прыглядаўся, як згараў,
Бы тая смольная лучына,
Мой дух ў агні пякельных дум.
Навокал мрок начны і сум.
І раптам чую — са двара
Падходзіць нехта ціхім крокам.
Гляджу ў акно. Над Беластокам
Дрыжыць вячэрняя зара.
З па-за фабрычных камінoў
Каціўся месяц серабрысты;
На тле кароны цёмналістай
Гарэлі свечкі каштаноў.
І водар іх,
　　　　　　як весні чад,
Плыў да мяне праз шпары крат.
Як ясны цень юнацкіх мар,
Як бляск далёкіх ідэалаў,
Перада мною твар у твар
Жанчыны летуцень стаяла.
Я адчуваў яе дыханне,
Яе хвалюючы пагляд.
І чарам першага кахання
Павеяла з-за крат.
Як шэпат ніў, як шум дубровы,
Знаёмы галасок яе:
— Скажы, чаму ты так суровы?
Чаму не любіш ты мяне?

Здалёк аднекуль з-за палёў,
Дзе край нябёс з зямлёю зліўся,
Як быццам плачам кулікоў,
Ўспамін далёкі пракаціўся.
І я сказаў тады вясне:
— Не для мяне...
Ад пут нашу крывавы знак.
Клянуся я табе сумленнем,
Што радасць вып'ю ўсю да дна,
Ды толькі ў новым пакаленні.
Не можа крыўды той забыць,
Хто сам другіх не мог пакрыўдзіць,
Не можа той ужо любіць,
Хто раз пасмее ненавідзець.
Пакінь... Ты бачыш: я стаю
На алтары народнага змагання.
Спаліў я моладасць сваю
І з ёй, вясна, тваё каханне.
Заходзіць кат ўбіваць свой цвік.
Вясна схілілася на грудзі.
А я да крат плячом прынік,
Глядзеў на неба і марудзіў.
З нябёс далёкіх палатна
Звязда бясшэлесна апала.
Праз шпары крат турэмнага акна
Мяне вясна пацалавала.

## НЕ РАЗ, НЕ ДВА ЎЖО ПРЫСЯГАЎ

Не раз, не два ўжо прысягаў
Я перад геніем маўчання,
Калі ў душы перамагаў
Спакой над гневам і адчаем,
Што болей слова не прамоўлю
Пра здзек, дапушчаны багамі.
Няхай акупленая кроўю
Святыня топчацца нагамі,
Няхай бясчэсцяць іншаверцы
Майго народу алтары,—
Я супакою сваё сэрца
І буду лепшай ждаць пары.

. . . . . . . . . . . . . .

Не раз, не два ламаў з размаху
Канон, пастаўлены сабой,
Гатоў пайсці лягчэй на плаху,
Як вол ахвярны на убой,
Чым тлець паволі на вуголлі
Стыдом згараўшага сумлення,
Гнаіці дух ў сырым падполлі,
Маўчаць, чакаць і нябёс збаўлення.
Чакаць патолі безгалосна,
Калі так хочацца рыдаць,
Рукам ахвота волю даць...
О не! зацяжка, занязносна.
Ўставаў, штосілы біў трывогу
Ў набатны несціханы звон.

Хоць кляў багоў — маліўся богу,
Калі напраўду ёсць дзе ён.
На ўсё, што людскае пад небам,
Яго прасіўшы, заклінаў:
— Паглянь на наш пакутны
жрэбій

І дай мне ў рукі перуна,—
Прытон драпежнікаў я знішчу,
Адпомшчу крыўду нашу злую
І на гарачым папялішчы
Хоць камень родны пацалую.

# МЫ ЖЫВЁМ

Наша песня недапета,
Грымнуць нам яе пара
З большым жарам і імпэтам
Па абломках алтара.

Ўецца полымя-стыхія
Беларускіх свежых сіл.
Ой, дарэмна бура вые,
Дыша холадам магіл;

Ой, дарэмна гоніць хвалі
Новых лютых навальніц,—
Не заліць ўжо ёй пажару,
Не спыніць жывых крыніц.

З новай песняй на прасторы
Выйшаў новы маладняк.
З дымам пойдуць ўсе запоры,
Стане вольным к сонцу шлях.

Мы ідзём. Дык хай жа значаць
След наш чорныя крыжы,—
Нас ужо не апалячыць,
Мы жывём і будзем жыць!

*Беласток, чэрвень 1937 г.*

# ВОСЕНЬ ПЕСНЮ МНЕ ПАРВАЛА

Восень песню мне парвала
І за горы кінула.
Песня, грымнуўшы, прапала,
Песня з енкам згінула.

І павесіў я чупрыну
І падумаў пра сябе:
— Можа быць, мая айчына,
Мы загінем ў барацьбе.

Ды без песні, мазалямі
Не парваць сталёвых пут,—
Будзем значыць зноў агнямі
Мы шляхі сваіх пакут.

Вольна кружыць, б'ецца, ўецца
Над балотам жоўты ліст.
Сэрца тужыць, сэрца б'ецца...
Эх, і гаркнуў бы, здаецца,
Пад вятроў пануры свіст!

Ды не пець мне, як бывала,
Пастушком, не знаўшым крат:
Што было, прайшло, прапала
І не вернецца назад.

Ўзяў за краты я рукамі,
Аглянуўся і патрос...
Хмары ўюцца, крумкачамі
Абляглі краі нябёс.

Апусціліся,
застылі,
Ў сэрца ўпіліся ізноў.
Раны ўсе мае адкрылі,
З іх цячэ няспынна кроў.

Гэй, вярні мне, вецер, песню,
Песню долі батрака!
Свет зрабіўся мне зацесны,
Быццам клець для жаўрука.

А не вернеш, прысабечыш,—
Будзь гатоў мне выдаць бой.
Як бярэшся ты? За плечы?..
Э, не так ваююць, стой!

Фронтам стань перада мною,
Ззаду ловіць толькі трус.
Біцца так гатоў даўно я,
Я ж тутэйшы, беларус!

*Беласток, 1937 г.*

# КУДЫ НІ ГЛЯНЬ — КРУГОМ ЗАСТОЙ

Куды ісці? і што рабіць?
*М. Багдановіч*

Куды ні глянь — кругом застой,
І скрозь павольнае кананне.
Падзеяў цень над галавой
Звісае знакам запытання:
Куды падзецца? Што рабіць?
І што пачаць? З якога боку?
І чым ударыць, як прабіць
Халодны змрок над Беластокам?
На плынь грамадскага жыцця
Гляджу з пануранаю тугою.
Няма былога пачуцця.
На ўсім, што сэрцу дарагое,
Ляжыць мінуўшчыны пячаць.
Замёр акорд, астыў разбіты,
І струны звонкія маўчаць,
Іржой бяздзеяння пакрыты.
Бягуць гады... і пыл сядае
Бяльмом на нашай палатніне;
Задор і вера маладая
Дрыжыць, сціраецца і гіне.
Плывуць гады.
Злятае час.
Гарэў агонь —
агонь пагас...
Маўчыць злавешчая пячаць
Магільных пліт...
І сум, і жаль, і боль, і стыд.
Бо ўсе «жывуць» і ўсе маўчаць.

Ці й мне дапальваці агонь
Сваіх надзей?
І над труной разбітых сіл
Паставіць прымірэння пліту?
Ці мне ісці сярод магіл
Шукаць жывых яшчэ людзей
І кідаць кліч у змрок нябыту?
У кім гарыць хоць іскра веры
У святую праўду нашых мэт,
Хто гонар свой не звонам мерыць
Здабытых здрадаю манет,—
Займі пакінутае месца!
Не нам вяртацца з паўдарогі.
Хай зноў над намі разаўецца
Сцяг нашай пэўнай перамогі.

*Беласток, лістапад 1937 г.*

## ДА НАС ВЫЙДЗІ

Што ж ты так агарадзіўся,
Як перад нападам?
Глянуў — трах! — і зачыніўся,
Быццам нам не рады.

Значыць, думаеш хавацца,
Кажуць,— няма дома.
Слухай — нечага баяцца!
Хоць яно... вядома.

Падзяліць сваю дабычу
Мы з табой хацелі,
Дык не будзь глухім да клічу
Трудавой арцелі.

Там гаруцца саматужна
Нашыя загоны
З песняй звонкай, з песняй
дружнай
Самаабароны.

Пакуль прыйдзе дзень, брыгада
Маю працу кончыць,
Не хапае ёй прыладаў,
Мала рук рабочых.

Мы адтуль прыйшлі заклікаць
Да супольнай працы.
Час найбольшы, час вялікі
Цаліну падняці.

Адчыні ж прад намі дзверы
І ўпусці дахаты,
Хай і ў ёй лунае вера
Геніям крылатым.

Што ж да нас — дык нам
належыць,
Ласкі мы не просім.
А чужое — прэч за межы —
Самі павыносім.

З нас цяпер свайго даволі,
Вось дэвіз наш цвёрды.
Беларус з мазольнай доляй
Не багат, а горды.

Мы пад плотам начавалі,
Ласкі не прасілі.
Нас ганялі-бічавалі,
Запрашалі-білі.

Абдзіралі нас да ніткі,
Акрывалі ў сорам,
Адабраўшы ўсе дабыткі,
Надзялялі горам.

Ёсць аднак і дзень вялікі
У памяці народнай.
Гул прайшоў многаязыкі
Па старонцы роднай.

Выйшлі ценямі з бярлогаў,
Дружна парашылі:
— Досыць мы гнявілі бога
І людзей смяшылі!

Далей рушылі грамадай
Браць, што ім належыць.
Другі йшоў, як першы падаў,
І змяняўся свежым.

Гэтак выйшлі і мы ў поле,
Выйшлі — зразумелі,
Што дасюль з уласнай доляй
Жыці мы не ўмелі.

Праца ёсць, хапала б сілы,
Ёсць па чым ударыць.
Мы даволі паслужылі,
Час пагаспадарыць.

Гэй, націснем, прыналяжам!
З намі не да жартаў,
З намі ўсяк сябе пакажа,
Хто чаго ёсць варты.

Каб надзеяцца на зборы —
Папрацуй да поту.
Ўжо даволі, як гавораць,
Вызіраць з-за плоту.

І звіняць, звіняць лапаты,
Сошкі і матыкі.
Бедны самі — дух багаты,
Ідэал вялікі.

Дзень выходзіць на спатканне
Полымем-зарою.
Сонца ўстане і застане
Беларусь жывою!

*Беласток, 16 сакавіка 1938 г.*

## Т.У.Р-оўцам *

Я вас пытаю, языкалы:
Хто даў вам права нішчыць, біць
Святыя нашы ідэалы,
Народаў дружбы катам быць?
Хто даў вам нашу зброю класа?
Пытаю, хто дазволіў вам,
Бясчэсным сукіным сынам,
Бяскарна шастаць словам «масы»?
Вы ўсе пайшлі ў варожы лагер,
Як здрайцы подлыя ў наём.
І родны ветразь без развагі
Сустрэць пасмелі вы агнём?
За што? За марныя адпадкі
З сталоў адвечных панскіх слуг,
На здзек аддаўшы мову маткі,
Штыком спынілі вольны дух?
О неба! Дзе ж твае пяруны!
Якая ганьба... ў цяжкі час!
Далоў, няшчасныя, з трыбуны,—
Гранатай ямбаў кіну ў вас!

*Беласток, 15 чэрвеня 1938 г.*

---

* «Товажыство Унівэрсітэту Роботнічэго» — сацыялістычная культурна-асветная арганізацыя, рэакцыйныя кругі якой праводзілі асіміляцыйную тактыку.

## НАРОД Ў ТРАГЕДЫІ ВЯЛІКІ

Народ ў трагедыі вялікі!
На берагах Дняпра, Дзвіны
За чэсць тваю крыжуюць пікі
Твае адважныя сыны.

Благаслаўі іх пачынанні
І ў перамогу іх павер.
Ў пылу крывавага змагання
Памогуць словы ім твае.

І хоць яшчэ іх многа зляжа
На вечны сон пад курганы,
Ды болей страціць сіла ўража
На берагах Дняпра, Дзвіны.

Ты будзеш жыць. У тым зарукай
Пачатай бітвы жар і пыл.
Ты будзеш жыць свабодай ўнукаў
І славай бацькавых магіл!

*Беласток, 25 ліпеня 1938 г.*

## АПЛАКАЎ ДОЛЮ Я СВАЮ

Аплакаў долю я сваю
Яшчэ за дзён сваіх дзіцячых,
Цяпер я слёз ужо не лью
І хай па мне ніхто не плача.
Ў руках маіх сталь рэвальвера,
Праверацы ў баю кінжал.
З дарогі прэч! Я ўжо не веру
Ні ў гнеў багоў, ні ў людскі жаль.
Я — крык скатованай ахвяры,
Я — енк роспачы й адчаю.
Я — помсты меч.
Я — біч.
Я — кара,
Кідаю кліч:
З дарогі прэч!

*Беласток, 28 жніўня 1938 г.*

## НА НОВЫ 1939 ГОД

Ціха. Марозна. Ліхтарыкі свецяць.
Наўкол навагодняя бель.
Віруюць плеяды ў халодным сусвеце,
Калышуць надзей калыбель.

На вуліцы ройна. Шчаслівыя людзі,
У кожнага свеціцца твар,
Не хочуць і глянуць у тое, што будзе,
Нясуць навагодні тавар.

Снуюць лімузіны. Патокам гарачым
Пад коламі пеніцца снег.
Хлапчук абарваны пакрыўджана плача.
Бруіць тратуарамі смех.

На вуліцы пуста. Гадзіна паўночы.
На ратушы б'е пералом.
Разбегшыся, месяц угору падскочыў,
Махнуў перабітым крылом.

Ціха. Марозна. Ні смеху, ні плачу.
Наўкол толькі пеніцца бель.
Ды ў ціхую прыстань, дзе радасць
маячыць,
Не стаў яшчэ мой карабель.

Яшчэ ён шыбуе на ўспененых хвалях,
Парушаных бураю вод,
Шыбуе пад вецер і мутныя далі,
Сігнал пасылае: —Народ!

Даўно ўжо другія, усеўшыся кругам,
Ўзяліся свой кубак дапіць.
Блуджу адзінокі, шукаючы друга,
І снег пад нагамі скрыпіць.

Дыхнула прасторам. Глухое прадмесце
Па-свойму спраўляе абрад.
Мо тут хто закліча з сабою прысесці
І руку пацісне, як брат?

Спрабую. Пушчайце!.. Пустынныя далі
Без рэха утойваюць скрып.
Тут, колькі б мы, сэрца, з табой ні рыдалі,
Пацехі сабе не знайшлі б.

Хвалююць узгоркі па белай раўніне.
Абапал маячаць крыжы.
Далёка, далёка у бездані сіняй
Ад холаду зорка дрыжыць.

Усход разгарэўся пурпурнай палоскай.
Іду поўным ходам на знак.
Дзень выйшаў з-за бору і, стаўшы над вёскай,
Падняў светазарны маяк.

*Беласток, 5 студзеня 1939 г.*

# З ВОПЫТАЎ

Вучы другіх і сам вучыся,
Як жыць з навучаным — з табой.
Глядзі, мой дружа, сцеражыся,
Бо можаш трапіць на убой.

Хоць дужы ты, не знаеш страху,
Усяму і ўсім даеш адпор.
Не ляж, глядзі, цяпер на плаху —
Над плахай ўзнесены тапор.

Цябе не выдасць ўласны розум,
Ды выдасць друг, калі ён раб.
Глядзі ж на рэчы, брат, цвяроза,
Глядзі, каб часам не аслаб.

Ты з рабствам кінуўся змагацца,
Ў няволю сам не пападзі,
Ты перастаў судоў баяцца —
Бярыся сам другіх судзіць.

Аднак не будзь залішне горды,
Спусці на тон і заключы,
Што, першу скрыпку ведучы,
Ты мусіш знаць усе акорды.

*Беласток, 3 лютага 1939 г.*

## ШЭРАЯ ГАДЗІНА

Хадзіў па вуліцы і змёрз.
Заходжу ў хату, каб пагрэцца,
А там ў вуглу сядзіць Мароз,
Аскаліў зубы і смяецца:
— Здароў, студэнт! Ну як жывеш?
Сядай і будзь у хаце госцем.
Найдзі што-кольвек і паеш,
Сагрэй хоць трохі свае косці.
Здароўе трэба шанаваць —
Здаровы дух ў здаровым целе.
— А мне на гэта напляваць,
Разумныя ўсе мала елі.
— Ого, глядзі куды хапіў!
Паложым, хлопец зухаваты,
А ты б тым часам не папіў
Цяпер гарачанькай гарбаты?
З кавалкам цукру, знаеш, так,
Хлябнуў? Гарачая? Ну, студзіш...
Паверыш, браце, што за смак!
Спрабуй, да смерці не забудзеш.

— Напітак самы лепшы мой —
Вада халодная з-пад крана.
— Дык гэта летам, а зімой?
— Выдумваць ўсё ж яшчэ зарана.
— Тэк... тэк... цябе не уламаць,
Відно не слабага дзесятка.
Ты можаш тон яшчэ трымаць,
Віншую — добрыя задаткі!

Бо грунт — то тон, як знаеш сам,
Калі ж ён ёсць ў цябе, не брэдзіш,
На славу ўсім беларусам
Далёка, браце, ты заедзеш.
— Схавай дурацкі гараскоп,
Другога дурня ім пацешыш.
— К другому так не падышло б,
Другі напэўна пойдзе пеша.
— Пакінь смяяцца нада мной,
Прашу заўчасу, чорт лазаты,
Бо дам пад чэрава нагой,
То хутка вылеціш мне з хаты.
Язык тут свой распеуразаў,
Як брытва ён у цябе голіць,
Ды што разумнага сказаў?
Цынізму бачыў я даволі.
— Глядзі, як нервы яшчэ скачуць.
Чаго ж ты так разгарачыўся?
Не гавары аб тым, што бачыў,
Скажы, чаму ты навучыўся?
— Чаго прыстаў? А хочаш знаць,
Таго, каб з дурнямі не спорыць.
— Дазволь жа мне цябе абняць!
Люблю, хто шчыра так гаворыць.
Разумны, значыць, вельмі рад,
Адзін прынамсі мае розум.
А я падумаў... вінават!
Даруй жа стараму Марозу.
Дажыў да сівых валасоў
І шмат чаго, здаецца, знаю,
А вось жа вас, беларусоў,
Мой розум ўсё ж не абымае.
І што то, брат, за пакаленне?
О, то ж бо дзіўная натура!
Раз ў буру мора па калена,
Другі раз ў шклянцы бачыць буру.

Народ цікавы, што й казаць,
Хаця б ўзяць сёння... Ну паслухай.
— Мне рукі сталі замярзаць.
— А ты вазьмі на іх падзьмухай.
— Старая рада і ніхто
Ў яе табе ўжо не паверыць.
— Надзень цяплейшае пальто.
— Няма.
— Гм... кепскія паперы...
Тады глядзі, вось той паркан,
Яшчэ яго не расцягнулі,
Штыкецін пару так, к рукам,
Не мог бы ты падкараўуліць?
Цягні хутчэй, і напляваць,
Мы ў тры міга іх тут парэжам
І ў печ.
Не бойся, высахлі, згараць.
— Не ў гэтым рэч...
— А ў чым? Шкада гаспадара?
— Ты што, смяешся? Чыё дабро
Рашыў мяне направіць красці?
— Ну, што ж, купі вязанку дроў...
Ты ж чым хацеў агню раскласці?
— Ах, смейся, чорт, а я змаўчу.
Аднак ты зброю першы зложыш,
Бо ўсё ж ты слаб ў маім ваччу,
Таму мяне й не пераможаш.
Недарма кажуць палякі,
Што беларусы ўсе дачыста,
Асобна браць — бальшавікі,
Агулам браўшы — камуністы.

## УПАЛІ ПУТЫ

Адзін удар — і ўпалі путы
З грудзей няшчаснае краіны!
І вось закончан шлях пакуты,
Хто жыў астаўся — не загіне.

Сыны працоўнага народу!
Выходзьце з мрочнага падполля!
З чырвоным штандарам са ўсходу
Да нас прыйшла другая доля.

Да нас зляцеў чырвоны вырай,
Ўсе йшлі вітаць жаданых птахаў.
Усе уцешыліся шчыра,
І я ад радасці заплакаў.

Мой край, празваны Беларуссю,
Даруй за слабасць, што я плачу,
Бо перадаць яшчэ баюся
Таго, што сёння я пабачыў.

Паноў няма! Няўжо тоява?
Няўжо, калі прамоўлю слова,
Не рыне гончая аблава,
Каб зноў зрабіць мяне нямовай!

Не так даўно, бо толькі ўчора,
Магутнасць іх яшчэ я бачыў.
О, колькі слёз і колькі гора!..
О, колькі ляманту і плачу!..

Каменні трэскалі ад жалю,
Выходзіў Нёман з берагоў...
Нам грудзі помстаю дрыжалі,
А гнеў марозіў ў жылах кроў.

Ды не, не сон перада мною.
Сцягі чырвоныя навокал,
І свеціць ласкай незямною
Майго народу ўзрок глыбокі.

*Беласток, 28 верасня 1939 г.*

* *

На белую скрыжаль народнага цярпення
Паклаў і я свой знак
крывавым іерогліфам.
Ацэнку дасць пасля працоўных
пакаленне,
Які пяяў канон я песняю-апокрыфам.
Цяпер спакоен я. Няхай жа з чорных
хмар
Ударыць гром ў расхрыстаныя грудзі,—
Яны яму адкажуць акордам на удар,
І песні новыя пачуюць людзі.

# ПЕРАСТАНЬ!

Ой ты, галубанька, дзеванька мілая,
Што ж так глядзіш на мяне?
Ведай, ў грудзёх у мяне баязлівае
Сэрца калышацца ў сне.

Ведай, што чорныя вочы дзявочыя
Могуць яго разбудзіць;
Буду ўздыхаць па іх кожнае ночы я.
Ах, перастань!.. Не глядзі!

Веюць далёкія ясныя марывы,
Сыплюць чароўныя сны,
Моладасць буйная ў струны ударыла
Песню разгульнай вясны.

Муціць вячэрнюю цішу навокала,
Звонячы ў сталь, маладзік.
Ах ты, навеяна здань чарнавокая!
Стой! Пашкадуй, не глядзі!

Рокаты лірныя сэрца напоўнілі,
Хочацца жыць і любіць.
Ўсё, што забылася, вочы прыпомнілі,
Іх мне ужо не забыць.

Чую ўжо, ведаю, буду няшчасны я
Следам за шчасцем хадзіць
З ціхай малітваю: — Зорачка
ясная,
Выйдзі ка мне, паглядзі!

## МЫ ЗАБЫЛІ, ШТО МОЖНА ЛЮБІЦЬ

Мы забылі, што можна любіць.
Эх, ты, моладасць наша суровая!
Але сёння ужо так і быць
Пацалую цябе, чарнабровая.
Не судзі мяне, хто малады,
Правы сэрца не намі напісаны.
На вясне пачынаюць сады
Разгарацца ружовымі вішнямі.
Дык хай будзе, што мае ўжо быць,
Покуль вішня красы не асыпала,
Покуль кроў маладая дыміць,
Я люблю.
                Не магу не любіць,
Бачна, доля такая мне выпала.

*1940 г.*

# НЕ МАГУ ВЫБЯГАЦЬ Я НАПЕРАД

Не магу выбягаць я наперад,
Не жадаю астацца і ззаду.
Пакуль сэрца дыміць яшчэ верай,
Я не вып'ю мяшчанскага яду.

Не брыду яшчэ той каляінай,
Што завецца мяшчанскім балотам;
Я шыбую на крыллях арліных,
Я жыву небасяжным узлётам.

І ў мяне пакуль што мая доля
Павявае размашыстым чубам,
Выйду з ёю ў адкрытае поле —
Ўсе пытанні пастаўлены рубам.

Не чытаю табліц на растанні
І дарог для сябе не пытаю,
Траплю ў бурную сферу кахання,
Поўным сэрцам яго прывітаю.

Я ды шыр без канца і пачатку,
Шырыня маёй волі ды я.
Ёсць прыгожыя, кажуць,
дзяўчаткі,
Значыць, ёсць сярод іх і мая.

А спаткаўшысь з сваёй чарнавокай,
Ёй скажу: — Ў адзінокім жыцці
Ты мне зоркай свяціла далёкай,
Будзь бліжэй да мяне і свяці.

## БЫВАЛА...

Бывала, блудзілі мы з ім тратуарам,
Тых дзён не забыць нам ніколі.
Прад намі маячылі светлыя мары,
А следам брыла наша доля.

Мы працы шукалі, шукалі навукі,
Як многа другіх надарэмна.
Ні розум гарачы, ні спрытныя рукі
Нікому былі непатрэбны.

— Купіце наш вопыт, купіце мазолі,
Не дарага — працы і хлеба!
Адказ быў адзіны: — З нас хопіць, даволі,
Рабочых нам болей не трэба.

Куды б ні пайшлі мы, куды б ні звярнулі,—
Наш цень забягае наперад,
Нас роспачы сеці кругом агарнулі,
Як рыбу, папаўшую ў нерат.

І толькі маглі мы хадзіць тратуарам,
Выцягваць бяспомачна рукі.
З вачэй жа скрываліся ясныя мары,
А следам брылі нашы мукі.

*Беласток, 25 студзеня 1941 г.*

# РАСЦВІТАЕ САД ПРЫГОЖА

Расцвітае сад прыгожа
Ў зіхаценні буйных рос,
Месяц коціцца з-за хмары
На акраіне нябёс.

Выйшлі зоркі карагодам,
Сыплюць серабра на ніз,
Сіняватым лёгкім дымам
Паміж дрэў туман павіс.

Салавейка ўжо шчабеча
Пра юнацтва і вясну,
Я пайду яго паслухаць,
Бо ўсё роўна не засну.

Пайду слухаць, як ціхутка
Пачынае сэрца ныць,
І пад песню салавейкі
Я паклічу свае сны:

— Дзе ж вы, дні майго юнацтва,
Дзе вясна маіх гадоў?
Не пакінулі вы следу
Між квітнеючых садоў!

Камсамолачка, галубка,
Выйдзі, сэрцайка, ка мне,
Мы пад кусцікам жасміну
Пагаворым аб вясне.

Раскажу табе пра тое,
Як я жыў і як жыву,
Як з краіны ясных мрояў
Сны прыходзяць наяву.

*Беласток, май 1941 г.*

6 Зак. 617

# ВАЙНА

Сарвалася лавінай жалезнаю,
Закруцілася бурай шалёнаю,
Разлілася стыхіяй бязмежнаю,
Саранчою апала зялёнаю.
Застагналі палі пад калёсамі,
Задрыжала зямля пад ударамі,
Узвіліся дымы пад нябёсамі,
Старана засвяціла пажарамі.
Свет напоўнены грукатам, рокатам,
Бабы носяцца праставалосыя,
Людзі падаюць, коцяцца покатам,
Быццам тая травіца пад косамі.

# КАЖУЦЬ, МІНУ МАЮ ЗЛУЮ

Кажуць, міну маю злую,
Вельмі востры на язык,
Бабам ручак не цалую,
Праставаты, як мужык.

І падумаеш — выходзіць
Іхна праўда — вінават.
Я ў мяшчанскім асяроддзі
Нейк надта грубават.

Але што я ўжо параджу?
Не змянюся, хоць забі,—
Беларускіх магараджаў
І раней я не любіў.

Не магу цярпець манераў
Недапечаных паноў —
«Дахтароў» і «інжынераў» * —
Розных сукіных сыноў.

Пасярод грамадскай гнілі,
Ахапіўшай наш народ,
Я б не мог пражыць і хвілі
Без сарказмаў і вастрот.

З імі груб я, прызнаюся.
Іх саміх і іхніх жон —

* Буржуазныя нацыяналісты любілі сябе тытулаваць «дактарамі», «інжынерамі».

Гэту язву Беларусі —
Я бы выразаў нажом.

Негуманна, можа, дзіка,
Але так ўжо мусіць быць —
Трэ пакончыць з гэтай клікай,
Калі хочаш яшчэ жыць.

Ды што значыць — негуманна?
Гуманізм ў ваенны час?
Ў іх на мэце панаванне,
А якая мэта ў нас?

Мне пляваць на іх «навуку»
І на тытулы пляваць,
Пападзі я ім пад руку —
Кайданоў не мінаваць.

Інжынеры і магістры!
Еўрапейскае смяццё!
Прэч з дарогі, кар'ерысты,
Вы асуджаны жыццём!

*Беласток, лістапад 1941 г.*

# КІПІЦЬ БЯСКОНЦАЯ ЧАРҐА

Кіпіць бясконцая чарга.
Народ шуміць каля пякарні.
Дзяржуся месца як мага,
Ды ўсе тут высілкі намарна.
Скруцілі, сціснулі ў клубок,
Напёрлі, ухнулі, рванулі,
А потым, чую, распранулі
І раптам выкінулі ўбок.
Стаю, апёршыся на плот,
Кругі плывуць перад вачамі,
На лоб халодны выйшаў пот,
Марозам сыпле за плячамі.
А там раве, а там клякоча,
Як ў віры чорная вада,—
Адзін другога з'есці хоча,
Адно глядзець бярэ жуда.
Вішчаць кабеты, плачуць дзеці.
Мужчыны лаюцца на смерць.
Ото ж пайшла бяда па свеце!
Жахліва слухаць і глядзець.
І гэтых пару нейкіх грам
Дастаць на пашпарт не даецца.
А колькі тут панурых драм!
Там баба з бабаю ўжо б'ецца...
Адна другой у валасы,
Як ведзьма ў фурыю, ўпілася,
І ўміг з жаночае красы
Адна брыдота засталася.

Там лезе бабаю-ягой
Бабуля сівая, старая
Ў руцэ паперы, а ў другой
Кіёк бярозавы трымае.
Дзядок старэнькі, як грыбок,
Жартуе з ласкаю старэчай:
— Ага?.. Што кажаш, галубок?
Мацней, не чую, чалавеча...
— І ты, кажу, за доўгі век
Яшчэ, гаворыш, не пад'ела?
— Як бачыш, добры чалавек,
Спяшала нават — не паспела.
Жыву далёка. Колькі йсці!
А што, гаворыш, расхваталі?
Людцы, маглі б мяне пусціць,
Старую б вы паратавалі...
Ды просьбу бабкі заглушыў
Пякельны лямант нейкай дамы:
— Ратуйце, людзі, задушыў!
Куды на голаў лезеш, хаме?
— Дзе лезеш, ведзьма?
Затрымаць! —
Бабулька ўжо ляжыць на бруку.
А хтось, падбегшы падымаць,
Найшоў паломаную руку.
— За што вы мой старэчы век...
Мае праўнукі ужо служаць...
Вады мне, добры чалавек...
Мне свет вось так-такі і кружыць...
Схадзі да ўнучкі, добрым будзь...
А дзе ж мой пашпарт? Ох, згубіла...
Скажы ёй, толькі не забудзь...
А што сказаць — навек забыла.



...правізарычным бурмістрам горада Беластока назначаю...

*(З абвесткі)*

Ты быў Лукашык, я — Крывец,
І мы калісь з табой дружылі.
Ды ў кожнай дружбе ёсць канец,
Чаго б ў яе мы ні ўлажылі.
І каб тады ты быў пагіб,
Я быў бы рад такому лёсу:
Прынамсі гэты перагіб
Табе зрабіць не давялося б,
Прынамсі б цень яго не лёг
На нашай дружбы успамінах,
І я з заблытаных дарог,
Пайшоўшы простай каляінай,
Данёс бы светлы вобраз твой,
Яшчэ не кранут ганьбы пылам,
У старонкі памяці жывой,
Як сказ пра нашага Ахіла.
Ды не дабіў цябе абух
Тупой нянавісці палякаў.
І я, як твой адзіны друг,
Тваё канчыны не аплакаў.
Паміма ўсё — астаўся жыць
І толькі тым сябе запляміў.
Цяпер няможна даражыць
І нашай прошласці вуглямі.
Ты мне закінеш не адно,
А я табе адно закіну:
Хоць мы спаткаліся й даўно —
Я знаў цябе напалавіну.
І я мыліўся, прызнаюся,

За што сумленне і грызе,
Бо думаў, што на Беларусі
Не будзе гетманаў мазеп.
Ў імя якіх такіх надзей,
Для мэт якіх, з якой прычыны
Ты сэрца выхапіў з грудзей
І кінуў камнем у Айчыну?
Адказвай ты мне, ўражы сын,
Каторым збітым афарызмам
Апраўдваць будзеш подлы чын
Свайго згібання прад фашызмам?
Каму, за што пайшоў служыць?
За штэмпель здрадніка на лобе?
Ну, сам падумай і скажы,
За што ты сам сябе угробіў?
Ты скажаш: цяжка разумець
Тваё высокае прызванне.
Сказаць не штука, трэба мець
Яшчэ у тым перакананне.
Ў цябе яго якраз няма,
Затое ёсць пустая дурасць.
І гэты твой самаабман —
Даволі нізкая натура.
Я сам яшчэ зусім не волен
Ад пэўных дробных перасудаў.
Я сам быў многім недаволен,
Утойваць гэтага не буду.
Я сам занадта чалавек,
Каб ўсё прымаць халаднакроўна,
Што нам дае дваццаты век,
І мне далёка не ўсё роўна
Глядзець на будні нашых дзён,
На светлым фоне бачыць цені
Перастарэўшага сумлення
Яшчэ не новых грамадзян.
Ды я пачуў сябе іначай,

Калі успомню пра адно:
Пры сонцы цені нам відно,
А ноччу й ценяў мы не бачым.
І я, блудзіўшы столькі лет
Па сцежках нашага народу,
У першы раз пабачыў свет
Пад сцягам ленінскай свабоды.
Таму умею даражыць
Я гэтым сцягам нашай волі,
І пакуль толькі буду жыць,
Яго бясчэсціць не дазволю.
Ты мне гаворыш: — Наш народ
Іначай радасць сваю мерыць.
Народ трэ ведаць напярод,
А потым толькі ў яго верыць.
А ты ж не знаў свяшчэнных мук
Душы народнай пазнавання,—
Ў цябе «народ» парожні гук
Іржавых струн без хвалявання.
І першы ты, як помніш сам,
Сказаў аднойчы мне даслоўна:
— Чаго хацець беларусам?
Ратунак тут наш, безумоўна.—
Тым больш ў гадзіну злых падзей
Дзіўлюся я тваім паглядам.
Ды хто пачаў як ліцадзей —
Урэшце рэшт канчае гадам.
Як смееш ты сябе назваць
Яго настрояў віртуозам?
Народу, знаеш, напляваць
На кракадзілавыя слёзы.
Зірні з вышынь пустога «я»,
Паглянь, што робіцца навокал.
Дарожка кончыцца твая
Адсюль ўсяго за пару крокаў.
Тваёй пятою — твой азарт —

Шалёны выбрык самалюба.
Ў тваёй пустыні твая згуба,
Калі не вернешся назад.
І дзе твой зрок і дзе твой слух?
Чаго ты жджэш, аб чым ты марыш?
Бывай!
Я больш табе не друг,
Ад сёння ты мне не таварыш.

*Беласток, ліпень 1942 г.*

# СПАКОН ВЯКОЎ ПЯЕ НАРОД

Ў жыцці ёсць многа злых хвілін.
Ды ў гэты час у гэту пору
Народных песень і былін
Краса нам служыць за апору.
Бывае так — слабеюць сілы,
Зрок засцілаецца туманам
І з-за найбліжшага кургана
Павее холадам магілы.
Хіснецца дух. І вось здаецца
Апошня іскра дагарае,
І толькі з вуснаў шэпт сарвецца:
«Сябры, бывайце!.. Уміраю...»
А вып'еш коўш заветнай брагі —
Ты зноў гатоў, як волат ў байцы,
З несакрушальнаю адвагай
Ісці у бой далей змагацца.
Спакон вякоў пяе народ,
І песні б'юць жывой крыніцай.
Мы плыні тых крыштальных вод
Спяшым з прыемнасцю напіцца.
З грамадскіх сходзячы дарог,
Мы часта йдзём у цень дубровы
Грудзьмі прылегчы на мурог
І чэрпаць з гукаў роднай мовы
Нектар жывога пачуцця:
Па з'явах ў люстры гэтых водаў
Знаходзіць шлях свайго народу
Ў віры спрадвечнага жыцця.
Спакон вякоў пяе народ,

І песні льюцца, быццам рэкі.
Ў іх быт прастога чалавека
Адбіўся, быццам небазвод.
Якія ж гамы тут настрояў
Плывуць ў размер народных дум!
То сыплюць краскі ясных мрояў,
То вераснёвы ціхі сум,
То з восеньскага паднябесся
Крык развітальны жураўлёў,
То з сенажацяў і палёў
Сталёвых кос прарвецца песняй.
Там хмары восені дажджлівай,
Там сонца летняе гарыць,
Там льецца золата зары,
Вясны разгульнай і шчаслівай.
Калыша маці свайго сына,
Шчабеча ў садзе салавей,
Над рэчкай журыцца дзяўчына,
Лябёдка ў завадзі плыве,
Кукуе сівая зязюля,
Матуля сына выпраўляе,
Сіротка тужыць за матуляй
І з буйным ветрам размаўляе.
Сядае плытнік за вячэру,
Памёр чумак здалёк ад хаты,
А недзе б'ецца дзікім зверам
Юнак, закінуты за краты.
Сіротка плача над магілай,
Сумуе дуб сярод палёў,
Ў кургане спіць герой-асілак
Са знакам чорных мазалёў.
А песні, песні аб прыгоне!
Хто чуў іх раз, той не забудзе:
Здаецца, стогнуць ўжо не людзі,
А ўся зямля, здаецца, стогне.
Фальклор, фальклор, душа народу!

Люблю размах тваіх шырот.
Люблю парою веснаходу
З берагавых тваіх высот
Глядзець, як трэскаюць аковы
На лоне роднае ракі.
Здарова, брацця мужыкі!
Смялей, смялей, народ вясковы!
А як прыемна ў гэты час,
Свой вутлы выцягнуўшы човен,
Пусціцца ў ім з патокам мас
Па зыбкім пеністым узроўні.
Лячу стралою ўздоўж русла,
Ўваччу наўкол усё віруе,
Абломкам старага вясла
Дзе-недзе толькі пакірую.
Ізноў кірунак, як струна,
Ляжыць да першага загібу.
Не трэба ветразі й стырна,
Мне ведам шлях радзімых
глыбяў.
Мільгаюць — лес, даліны, горы,
А горды човен мой імчыць.
І вось я бачу тое мора,
Дзе ўсе сцякаюцца руччы.

*Беласток, 10 кастрычніка 1942 г.*

ЗМЕСТ

**Крывец С.**
Дубок. Вершы. Мн., «Беларусь», 1972.
88 с. 3000 экз. 31 к.
Зборнік «Дубок» — першая спроба шырока пазнаёміць чытачоў з творчай спадчынай Сяргея Крыўца, таленавітага паэта-камуніста, барацьбіта за ўз'яднанне заходнебеларускіх зямель з маці-Радзімай.

7-4-3
142-72

Бел2
К 85

На белорусском языке

**Сергей Кривец**
**Стихотворения**

Издательство «Беларусь» Государственного комитета Совета Министров Белорусской ССР по печати. Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар У. Машкоў. Мастак Е. Лось. Мастацкі рэдактар І. Славянін. Тэхнічны рэдактар З. Сень. Карэктар А. Сачкова.

АТ 09070. Здадзена ў набор 1/XII 1971 г. Падп. да друку 15/II 1972 г. Тыраж 3000 экз. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 3,2. Уч.-выд. арк. 2,97. Зак. 617. Цана 31 кап.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.